# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

ВЫДАНЬНЕ ІНІЦЫЯТЫЎНАЕ ГРУПЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК

## ІНІЦЫЯТЫЎНАЕ ГРУПЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК

14 СТУДЗЕНЯ 1989


## ПАЧАТАК КАНЦА ТРОХГАЛОВАГА ЦМОКА?

АЛЬБО ЛІСТ ДЭЛЕГАТАМ ВАЛЬНАГА СОЙМУ-89

1988 год паводле японскага календара - год Дракона. На жаль у міфічнага персанажа, пад знакам якога мы жывем раз на дванаццаць рокаў ёсьць трохгаловы цёзка, чыі цёплыя абдымкі дане зьяўляюцца міфічнымі для пераважнае часткі народаў сацлягеру. Беспрэцэндэнтная па сваёй бескантрольнасьці ўлада партэліты, звышканцэтрацыя да эканамічнай распуснасьці "совьет монополий" - міністэрстваў ды ведамстваў, зрашчваньне кіруючага парт- і дзярж- апарату са злачыннымі элементамі /мафія/, па-майстэтску трымалі апошнія дзесяцігодзі "паспаліты люд" у стане палітычнае апатыі. Таму не выпадкова, што

добрыя два з паловай гады народы СССР успрымалі запэўніваньня у "перабудове ды публічнасьці" не інакш, як з цынічнымі ўсьмешкамі. Падзеі мінулага року далі надзею абуджэньня палітычна-сацыяльнае пазыцыі самых шырокіх пластоў насельніцтва. Стварэньне народных перабудоўчых рухаў у Прыбалтыцы паказалі прыклад "пастаноўкі пад кантроль" "сталпоў" эпохі нэасталінізму. Нават у нашае роднае Беларусі, дзе паводле выраза намміністра МУС БССР Платонава, "сложилась стабильная социальная и политическая ситуация, а правительство современно и грамотно осуществляют курс на перестройку" /"Комсомольская правда" 13.11.88/ адбыліся /хочацца верыць што незваротна/ зрухі. "Адкрыў" баявы сезон на Беларусі сакавіцкі мітынг, наладжаны "Талакою" па пытаньню захаваньня Верхняга места ад будаўніцтва другой чаргі мэтро. Упершыню разам з моладзю ды інтэлігенцыяй можна было пачуць голас іншых сацыяльных групаў. Убачыўшы ў гэтым пагрозу для "маральных устоев общества", "власть предержащия" адгукнулася артыкулам "Вячэрняга Мінску" "Пазіцыя ці поза". Але ён толькі паспрыяў актывізацыі народных масаў, прыцягнуў увагу шырокай грамадскасьці да культуралягічных праблемаў... Потым было 3-га чэрвеня - выйсьце "ЛіМу" з артыкулам З. Пазьняка ды Я.Шмыгалёва "Курапаты - дарога сьмерці", які стаў падзеяй ня толькі ва ўсесаюзнай, але і ў міжнароднай прэсе. 19-га чэрвеня /шматтысячны мітынг у Курапатах/ назаўсёды ўвайшло ў гісторыю Беларусі. Нефармалы навідавоку пераканаліся, што нават пры самым актыўным супраціве кіруючых колаў, народ на іх баку. Прыкладна ў гэты час сталі падымацца экалягічныя пытаньні./шматтысячныя мітынгі ў Наваполацку, Гародні, дыскусіі ў Драгічыне і г.д./... Потым былі 19-е ды 30-ае кастрычніка. Ужо зараз бачна, што стварэньне Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне" і разгон "Дзядоў" маюць усе шанцы назаўсёды ўвайсьці ў гісторыю нашае Бацькаўшчыны...

Канфрантацыя паміж БНФ і Беларускай намэнклятурай не зьяўляецца выпадковасьцю. Падзеям 30-га кастрычніка папярэднічалі 5-ае ды 6-ае жніўня /Менск, парк Янкі Купалы, разгром пікетаў "Талакі" за дзяржаўнасьць беларускае мовы сіламі камсамалійскіх "оператараў" ды міліцыі/, і 25-ае жніўня - уварваньне міліцыянцкіх супрацоўнікаў у кватэру, дзе сабраліся лідэры маладзёжных патрыятычных аб'яднаньняў... Сутыкненьне было непазьбежным. Проста цяпер у адкрытую барацьбу зь беларускае партыйнае алігархіяй уключыліся і нашыя старэйшыя таварышы. Стварэньне Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне" - выклік "Вандэі перабудовы". Беларусь зараз, як лякмусовая папера" будзе сьведчыць незваротнасьці дэмакратызацыі савецкае сыстэмы кіраваньня. Параза... АЛЕ БУДЗЕМ АПТЫМІСТАМІ ! Будзем верыць, што злучаныя сапраўдным інтэрнацыяналізмам ды імкненьнем да волі патрыятычныя рухі Прыбалтыкі, Беларусі, Украіны ня будзе дадзена стрымаць ніякім спаткаемцам "великой империи". На дзесяткі мільёнаў людзей проста не хопіць танкаў...

Дружы! Усьвядоміўшы сваю адказнасьць перад гісторыяй, будзем мужнымі ды разумнымі. Наш лёс - у нашых руках!

Рэдакцыя.

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ АБ'ЕДНАНЬНЯ "ТАЛАКА":

### Фармулёўка тых супярэчнасьцяў, якія нарадзілі наш рух.

Цяжкі нацыянальны лёс напаткаў наш народ. Асабліва бязьлітасным было апошняе стагодзьдзе. Беларусь перажыла сталіншчыну, акупацыю, застой. Курапаты, Хатынь і Чарнобыль сталі сымбалямі гэтых трагедый. Велізарныя фізічныя страты, разладжаная сістэма гаспадараньня, парушэньне сацыяльнае справядлівасьці, вострыя экалягічныя праблемы, няведаньне свае праўдзівае гісторыі, зьнявечаная нацыянальная культура: забытая мова, вырачэньне фальклёру, народных традыцыяў ды маральных нормаў, катастрафальнае вынішчэньне помнікаў.

Не хапала жытла, дзіцячых садоў, прадуктаў харчаваньня, але ніколі не было недахопаў у шырокіх чыноўніцкіх габінэтах. Беларускі народ перастаў быць сапраўдным гаспадаром свайго краю, у ім гаспадарыла і квітнела бюракратыя.

Гэтак жа кепска тая сыстэма адбілася на лёсе усіх нацыяў СССР, недазволіла рэалізаваць патэнцыялпраўнапраўнага саюзу народаў.

Трагізм сітуацыі прымусіў лепшую частку КПСС распачаць палітыку перабудовы. Гэтая палітыка паступова, нягледзячы на адчайны супраціў сілаў рэакцыі ды застою, прабівае сабе дарогу.

Перабудова пераможа тады, калі краінай будзе кіраваць сам абуджаны да палітычнае і нацыянальнае сьведомасьці народ. Вялікую дапамогу гэтаму абуджэньню, а значыць, перабудове маюць аказаць грамадскія арганізацыі. Аднак многія існыя зараз арганізацыі моцна хварэюць на бюракратызм і ня здольныя ў поўнай меры адлюстроўваць інтэрэсы сацыяльных групаў, весьці эфэктыўную грамадскую працу.

Таму мы, маладыя менчукі, усьвядоміўшы крызіснае становішча, што склалася на Беларусі і ва ўсім СССР, аб'ядналіся ў грамадскую арганізацыю "Талака", каб сумеснай працай дачыніцца да перабудовы.

### АЎТАПАРТРЭТ.

Талака – гэта традыцыйны народны звычай узаемадапамогі. Гэтая слаўная беларуская традыцыя выражае сутнасьць нашага аб'еднаньня, зьяўляецца асноўным спосабам дзейнасьці і дае нам назву. "Талака", як клюб аховы помнікаў узьнікла ў 1985 годзе і з таго часу пасьлядоўна займалася патрыятычным, эстэтычным, працоўным самавыхаваньнем і самаадукацыяй, фармаваньнем у сяброў клюба актыўнае грамадзянскае пазыцыі ш іхам дзейснага ўдзелу ў ахове помнікаў і прыроднага асяродзьдзя, усіх здабыткаў беларускае культуры.

Разумеючы, што мова – падстава культуры нацыі, гарантыя пераемнасьці пакаленьняў і самога існаваньня беларусаў, мы выступаем за дзяржаўнасьць беларускае мовы, г. зн. паступовае вяртаньне ёй належнае ролі ў грамадстве, пры забясьпячэньні права і рэальнай магчымасьці ўсім іншым народам разьвіваць свае мовы і культуры. Клопат пра роднае дапамагае "Талацэ" зразумець боль і трывогу іншых народаў за сваю культуру, спадчыну, мову. Наш інтэрнацыялізм сьведамы, а не плякатны.

Уся папярэдняя дзейнасьць прывяла нас да пераканаΝьня, што надзейнае захаваньне скарбаў нацыянальнае культуры, прыроднага асяродзьдзя, новае духоўнае Адраджэньне нацыі немажлівае без зьнішчэньня сталінізму, аднае з найбольш пачварных сыстэмаў падаўленьня індывідуальнасьці асобы і народу. І таму сёньня мы абвяшчаем свае палітычнае крэда – дэсталінізацыя. Таму сёньня "Талака" актыўна змагаецца за ажыцьцяўленьне прынцыпаў дэмакратызацыі, публічнасьці ў нашым грамадстве, ставіць перад сабой задачу узвышэньня уласнае палітычнае культуры.

### СУАДНОСІНЫ ЗЬ ІНШЫМІ ГРАМАДЗКІМІ І ДЗЯРЖАЎНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ.

Наш запаветны ідэал – Беларусь свабодных, высокамаральных, адукаваных людзей, якія незалежна ад нацыянальнасьці і роднае мовы любяць сваю Бацькаўшчыну, справамі спрычыняюцца да яе эканамічнага ды духоўнага роськвіту.

Мы лічым, што дасягненьне гэтага ідэалу магчымае толькі пры згуртаваньні ўсяго народу ў адзіны магутны рух. На Беларусі такім рухам павінен стаць Беларускі Народны Фронт за перабудову "Адраджэньне". Аб'еднаньне "Талака" абвяшчае сябе гуртом падтрымкі фронту.

У імя гэтае мэты гатовы да дыялёгу і супрацоўніцтва з усімі грамадскімі і дзяржаўнымі арганізацыямі.

У імя гэтае мэты мы вітаем перабудову ва ўсім Савецкім Саюзе і выступаем за перабудову стасункаў паміж рэспублікамі на ўзаемадапамогу і супрацоўніцтва, інтэнсіўны культурны абмен паміж імі.

Беларускае адраджэньне 80-х гадоў паклікала да жыцьця стварэньне дзесяткаў і сотняў згуртаваньняў, спэктар задачаў якіх даволі шырокі. Аднак усіх нас яднае клопат пра лёс Бацькаўшчыны. Мы падтрымліваем і пасьлядоўна рэалізуем ідэю аб'яднаньня сілаў у Канфэдэрацыі беларускіх суполак.

БЛІЖЭЙШЫЯ ЗАДАЧЫ.

У сваёй практычнае дзейнасьці "Талака" ставіць наступныя задачы:
1. Разам зь іншымі грамадскімі дзяржаўнымі арганізацыямі замацаваць у Менску новую традыцыю – рух "Роднае места" /Родны горад/. На нашую думку, рух павінен аб'ядноўваць наступныя формы грамадскае ініцыятывы:
а/талокі-суботнікі жыхароў, працу студэнцкіх будаўнічых атрадаў, МЖК, кааператываў па аднаўленьні помнікаў, ахова прыроднага асяродзя у горадзе і прылеглых зонах адпачынку. Задача руху "Роднае места" – не дапусьціць, каб хаця адзін помнік гісторыі і культуры быў зьнішчаны;
б/ шырокае і рэгулярнае грамадскае абмеркаваньне плянаў рэстаўрацыі і новае забудовы, дыскусіі па пытаньнях экалагічнае сітуацыі, культурнага жыцьця, рэформы адукацыі;
в/ краязнаўчая досьледная праца і прапагандыская дзейнасьць, стварэньне клюбаў, музэяў;
г/ стварэньне шырокае сеткі народных унівэрсытэтаў, курсаў беларускае мовы, гісторыі, мастацтва. Стварэньне навучальных ды культурных установаў, грамадскіх арганізацыяў прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць у Менску;
д/ абмеркаваньне новых і вяртаньне спрадвечных назваў вуліцам і плящам Менска;
е/ з мэтай прапаганды ідэяў руху – шырокае выкарыстаньне сродкаў масавае інфармацыі, арганізацыя сходаў, мітынгаў, сьвятаў /прапануюцца міжнародныя дні аховы помнікаў, асяродзя Сьвята горада, сьвята Мовы, традыцыйныя фальклёрныя сьвяты: Купальле, Гуканьне вясны, Каляды, дні памяці Радуніца і Дзяды і інш./.
2. Наладзіць у клюбе рэгулярнае абмеркаваньне актуальных палітычных праблемаў і плянаў сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця рэспублікі. Прыцягваць да гэтае справы як мага большае кола спэцыялістаў.
Узяць актыўны ўдзел у выбарчае кампаніі у Саветы Народных Дэпутатаў.
3. Браць актыўны ўдзел у мерапрыемствах арганізацыйнага камітэту БНФ.

ШЛЯХІ ДАСЯГНЕНЬНЯ МЭТАЎ

Мы дамагаемся сваіх мэтаў адкрыта, настойліва, дэмакратычнымі шляхамі.

"Талака" ніколі не прэтэндуе на манаполію ісьціны, дыктат, заўсёды гаворыць толькі ад свайго імя.

"Талака" дамагаецца сваіх мэтаў шляхам арганізацыі канкрэтных грамадска-карысных справаў. Такімі справамі мы лічым усе акцыі, скіраваныя на ўздым грамадзкае сьведамасьці.

"Талака" імкнецца вывучаць і улічваць інтарэсы ўсіх пластоў нашага грамадзтва.

ЗАКЛІКІ

Усіх, хто падзяляе нашу праграму і гатовы самаахвярна працаваць на карысьць Бацькаўшчыны, хто шчыры і сумленны – запрашаем да нас. Працы ўсім хопіць.

Калі не падзеляеце ў чымсьці нашае праграмы, калі ласка, стварайце свае суполкі. Будзем спрачацца, але і будзем працаваць. Разам Талакой.

# ВАЛЬНЫ СОЙМ 89
## ДАК. 1

У выканаўчы камітэт
Менскага Савета
народных дэпутатаў

ЗАЯВА

Арганізацыйны камітэт у складзе:
старшыні клюба "Талака" Вітушкі С.
старшыні ТМЛ "Тутэйшыя" Бяляцкага А.
старшыні клюба "Сьвітанак" Гуркова А.
зьвяртаецца ў адпаведнасьці з п.48 Канстытуцыі БССР і паводле Закону аб правядзеньні сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацый з просьбаю прадаставіць памяшканьне для правядзеньня Вальнага Сойму беларускіх суполак.

Тэрмін правядзеньня Сойму:
14 – 15 студзеня 1989 г.
Прыблізная колькасьць удзельнікаў:
400 чалавек.
Мэта сойму:
1. Справаздача дзейнасьці беларускіх суполак з часу Вальнага Сойму 1987 г.
2. Прыняцьце новага пляну работы.
3. Утварэньне Канфэдэрацыі беларускіх суполак.
4. Правядзеньне творчай вечарыны ўдзельнікаў беларускіх суполак.

Пад час правядзеньня Сойму плянуецца выкарыстаньне беларускай нацыянальнай сымволікі.

Дзеля правядзеньня Сойму просім прадаставіць памяшканьне у цэнтры места. З $10^{00}$ да $24^{00}$, – 14 студзеня і з $10^{00}$ да $16^{00}$ – 15 студзеня. Просім забясьпечыць памяшканьне ўзмацняльнай апаратураю. Абслугоўваньне памяшканьня аб'яднаньні могуць правесьці сваімі сіламі.

Арґкамітэт Вальнага Сойму:
Вітушка С.
Бяляцкі А.
Гуркоў А.
2 студзеня 1989г.

1988 год.

## ДАК.2

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ
НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ
ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
Витушко С.
Гуркову А.
Беляцкому А.

от 09.01.89.

Исполком Минского гороского Совета народных депутатов, рассмотрев 05.01.89 вашу просьбу о предоставлении помещения для проведения собрания молодёжных самодеятельных организаций, решил предоставить для проведения собрания в соответствии с изложенной в заявлении программой /п.1-3/ Дом культуры производственного тонкосуконного объединения им. Т.Я.Киселева 15 января 1989 года с 9.00-23.00. Оплату аренды здания и других услуг необходимо произвести за счет организаторов собрания.

Фрунзенскому райисполкому, администрации ДК МПТО им.Т.Я.Киселева поручено совместно с вами обеспечить подготовку и проведение данного мероприятия, изготовление пригласительных билетов, пропускной режим.

Исполком горсовета обратился с просьбой к ЦК ЛКСМБ оказать вам помощь в организации и проведении собрания, рекомендовал представителям организаций-учредителей и других молодежных клубов и самодеятельных объединений принять участие в работе собрания.

Отделу здравохранения поручено развернуть медпункт в ДК МПТО им. Т.Я.Киселева, управлению общественного питания - организовать питание участников собрания за наличный расчет, УВД Мингорисполкома - обеспечить охрану общественного порядка и противопожарную безопасность в ДК объединения и на прилегающей территории.

Вместе с тем исполком Минского городского Совета народных депутатов считает невозможным использование при проведении собрания молодежных самодеятельных объединений символики, не установленной Законом Белорусской ССР.

Секретарь исполкома Л.Н.Володькина.

## ДАК.3

ЗАЯВА АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
ВАЛЬНАГА СОЙМУ-89 БЕЛАРУСКІХ
МАЛАДЗЁЖНЫХ СУПОЛАК

2.01.89. наш аргкамітэт зьвярнуўся ў Менскі/Мінскі/ гарвыканкам з просьбай прадаставіць памяшканьне для Сойму. 5.01.89 мы сустрэліся з дэпутатскай групай, дзе больш падрабязна выказалі сваю просьбу /размова была запісана на магнітафон/. 9.01.89 атрымалі ахвіцыйны адказ /гл. вышэй/. Аднак умовы, на якіх нам было прапанавана памяшканьне, аказаліся для нас непрымальнымі. Замест двух дзён - толькі адзін - 15.0[illegible] студзеня / нядзеля/. Тое што нам прапанавалі памяшканьне зь $9^{00}$ да $23^{00}$ - не вырашае праблемы, бо людзям зь іншых местаў ды мястэчак неабходна будзе вяртацца дахаты.

Навучаныя горкім досьведам /падрыхтоўка Сойму-87, забароны мітынгаў - Курапаты, "Дзяды-88/ мы загадзя зьвярнуліся да сваіх сяброў у іншых мястох з просьбай пашукаць памяшканьне для Сойму. Суполка віленскіх беларусаў "Сябрына" з дапамогай "Саюдзіса" - літоўскага руху за перабудову - знайшла такое памяшканьне. Гэтае памяшканне нам прадстаўлялася на два дні і бясплатна.

З двух варыянтаў - менскага ды віленскага мы аддалі перавагу больш /на наш погляд/ зручнаму - апошняму. Апроч таго, віленскі варыянт дазволіць нам забіць двух зайцаў: а/ вырашыць свае справы; б/ наладзіць шчыльныя інтэрнацыянальныя сувязі зь літоўскімі прыяцелямі... Ды ў дадатак і адпачыць ад"цёплых абдымак" "звышкампэтэнтных"бэсэсэраўскіх органаў.

Але усё роўна дзякуем Менскаму/Мінскаму/ гарвыканкаму за "паўкрокў насустрач і застаемся з надзеяй на далейшае супрацоўніцтва.

С.Вітушка
А.Бяляцкі
А.Гуркоў

ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ !

Запрашаем вас прыняць удзел у II-м Вальным Сойме беларускіх суполак.

У адрозьненьні ад першага Сойму, які адбыўся ў сьнежні 1987 года і меў толькі азнаямляльны і кансультатыўны характар, галоўнай мэтай сёлетняга зьяўляецца утварэньне Канфэдэрацыі беларускіх суполак.

Сэнс утварэньня Канфэдэрацыі - згуртаваньне найболып сьвядомае часткі беларускае моладзі дзеля барацьбы з партбюракратыяй за свабоду, дабрабыт і самастойнасьць нашага народу, нашае Бацькаўшчыны.

Аб'яднаньне немагчымае без існаваньня агульнае праграмы. Таму на Сойме беларускіх маладзёжных суполак /БМС/ плянуецца прыняць агульную канфэдэрацкую праграму, у якой будуць высказаныя нашыя погляды да палітычных, эканамічных, сацыяльных , экалягічных, нацыянальных і іншых праблемаў.

На Сойме будуць падсумаваныя вынікі дзейнасьці БНФ за 1988 год. Адбудзецца абмен вопытам прапагандысцкай ды агітацыйнай працы.

На Сойме будзе прыняты агульны плян дзейнасьці на 1989 год для ўсіх суполак, што ўвойдуць у Канфэдэрацыю, вызначанае мейсца ды тактыка дзеяньня БСМ у БНФ "Адраджэньне".

Колькасьць дэлегатаў неабмежаваная.

Аргкамітэт ня можа ўзяць на сябе аплату квіткоў на праезд і харчаваньне. Аргкамітэт гарантуе бясплатны начлег.

Кожная суполка павінна падрыхтаваць пяціхвілінны выступ аб сваім вопыце прапагандысцкае ды агітацыйнае дзейнасьці. Просьба прынесьці кароткую пісьмовую справаздачу аб дзейнасьці суполкі за 1988 год, дзе указаць колькасны, сацыяльны і ўзрастовы склад сяброў суполкі.

У сувязі з тым, што мейсца правядзеньня Сойму вызначыцца у апошнія два дні, збор - 14 студзеня з 5-00 да 6-30 у Менску, ў залі прыгарадных касаў чыгуначнага вакзалу. Каб пазьбегнуць блатаніны, дэлегатам мець бела-чырвона-белыя значкі ці стужкі. Пропускам на Сойм зьяуляецца дадзенае запрашеньне.

Дзяжурны тэлефон у Менску
66-58-87 В. Івашкевіч.
Сойм адбудзецца 14 і 15
студзеня 1989 г.

АРГКАМІТЭТ СОЙМУ.

СТАТУТ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ МАЛАДЗЁЖНЫХ СУПОЛАК /ПРАЭКТ/.

1. Канфэдэрацыя Беларускіх Маладзёжных Суполак /КБМС/ аб'ядноўвае грамадзкія фармаваньні / /клюбы, таварыствы, суполкі, гурты падтрымкі зь пераважнай большасьцю сяброў ва ўзросьце да 35-ці гадоў/, якія:

а/ ставяць сабе на мэце нацыянальна-культуральнае ды дэмакратычнае адраджэньне Беларусі, поўны сувэрэнітэт рэспублікі /апроч глябальных пытаньняў абароны ды зьнешняе палітыкі/,

б/актыўна і пасьлядоўна працуюць у гэтым кірунку.

2. Сябром КБМС можа быць толькі грамадзкае фармаваньне /гл.п.1//Далей па тэксту - суполка/.

3. Кожная суполка захоўвае сваю самастойнасьць за сваю дзейнасьць. За дзеяньні, якія не адпавядаюць Праграме альбо Статуту КБМС сяброўства можа быць прыпынена Кансультатыўнае Радай КБМС /гл.п.6/

4.Суполкі каардынуюць свае дзеяньні, ладзяць сумесныя акцыі салідарнасьці, спрыяюць утварэньню новых суполак.

5. КБМС мае свой друкаваны орган.

6.Паміж соймамі агульнае кіраўніцтва КБМС ажыцьцяўляе Кансультатыўная Рада /КР/ начале з Каардынатарам, склад якой вызначае Сойм. КР ладзіць арганізацыйныя паседжаньні ня менш аднаго раза на два месяцы. Адзін-два разы на месяц суполкі пісьмова паведамляюць Сакратарыяту КР пра вынікі сваёй дзейнасьці ды пра агульнаю палітычна- культуральную атмасфэру свайго рэгіёну /места, вёскі, павету і г.д./ Каардынатар і некаторыя сябры КР ды супрацоўнікі Сакратарыяту, якія маюць цьвёрда акрэсьленыя функцыі /фінансы, справаводзтва і да т.п./ у выглядзе выключэньня маюць права быць аднаасабовымі сябрамі КБМС.

7. Вярхоўным органам КБМС зьяўляецца Вальны Сойм, дэлегаты якога большасьцю ня менш 2/3 галасоў могуць зацьвердзіць тыя ці іншыя рашэньні КР. Вальныя Соймы ладзяцца ня менш як раз на год. Колькасьць дэлегатаў ад суполак вызначаецца КР у залежнасьці ад колькаснага складу аб'еднаньняў.

ІНІЦЫЯТЫЎНАЯ ГРУПА
КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК
ДРУГІ ВАЛЬНЫ СОЙМ

ПАРАДАК ПРАЦЫ:
14 студзеня

1-е паседжаньне /12.00 - 14.00/

1. Паведамленьне пра гісторыю, дасягненьні, пралікі і асноўныя тэндэнцыі разьвіцьця беларускага маладзёжнага руху.
2. Выступ В. Быкава /мяркуецца/
3. Выступ З. Пазьняка /мяркуецца/
4. Справаздачныя паведамленьні каардынатараў /ад маладзёжных аб'яднаньняў/ пяці сэкцыяў Вальнага Сойму ў Палачанцы.

2-е паседжаньне /14.30 - 17.30/

1. Паведамленьне пра стасункі з паркіраўніцтвам рэспублікі.
2. Паведамленьне пра стасункі з камсамолам.
3. Паведамленьне пра беларускі студэнцкі рух.
4. Паведамленьне пра беларуска-літоўскія дачыненьні / у сувязі з апошнімі падзеямі ў Віленскім краі, Гродненскай вобласьці і асьвятленьнем іх у друку/.
6. Паведамленьне пра стасункі з беларускімі /у першую чаргу маладзёжнымі/ арганізацыямі за мяжой СССР.
7. Паведамленьне пра міжнацыянальныя стасункі на Беларусі.
8. Рэфэрат Беларускае тэрытарыяльныя вайсковыя часткі. Гісторыя і пэрспэктывы. Вайсковая служба. Вайсковая рэформа.
9. Рэфэрат "Эканамічная рэформа і рэспубліканскі гаспадарчы разлік".
10. Паведамленьне пра становішча нацыянальнае культуры.
11. Рэфэрат "Рэлігія. Асоба. Культура. Маладзёжны рух".
12. Паведамленьне пра цяперашні стан і перпектывы развіцьця экалягічнага руху на Беларусі /руху зялёных/

/Парадак паведамленьняў і рэфэратаў можа быць зьменены/

3-е паседжаньне /18.00 - 21.00/

1. Выступ прадстаўнікоў аб'еднаньняў / абмен досьведам, бягучыя праблемы, пляны/.
2. Выступ прадстстаўнікоў роднасных рухаў зь Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны і РСФСР /мяркуецца/
3. Выступ прадстаўніка ЦКЛКСМБ /мяркуецца/

4-е паседжаньне /21.30 - 23.30/

1. Паведамленьне пра Пляцформу Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак.
2. Абмеркаваньне. Зацьвярджэньне. /Або выбары рэдакцыйнае камісіі/.

Канцэрт. /00.00 - 4.00/.

15 студзеня

1-е паседжаньне /10.00 - 11.30/

1. Паведамленьне пра выбары народных дэпутатаў СССР.
2. Абмеркаваньне.

2-е паседжаньне /11.50 - 14.00/

1. Прыняцьце рэзалюцыяў:
а/ Пра перабудову на Беларусі;
б/ Пра БНФ "Адраджэньне";
в/ Пра стасункі з камсамолам;
г/ Пра беларуска - літоўскія дачыненьні;
д/ Пра адносіны з беларускімі арганізацыямі за мяжой СССР;
е/ Пра міжнацыянальныя стасункі на Беларусі.

/Спіс рэзалюцыяў можа быць дапоўнены і ўдакладнены/.

2. Паведамленьні пра Статут Канфэдэрацыі. Абмеркаваньне. Зацьверджаньне.
3. Выбары Кансультатыўнае Рады.
4. Выбары Каардынатара Кансультатыўнае Рады.

Беларускі гімн
словы Краўцова мэлёдыя Тэраўскага

МЫ ВЫЙ-ДЗЕМ ШЧЫЛЬ-НЫ-МІ РА-ДА-МІ НА
БОЙ ЗА ШЧАСЬ-ЦЕ І ЗА ВО-ЛЮ НА
ВОЛЬ-НЫ, РОД-НЫ СВОЙ ПРА- СТОР. ХАЙ
РО-ДУ СЛАЎ-НА-ГА СВАЙ-ГО; БРА-
ВО-ЛЯ ВЕЧ-НА БУ-ДЗЕ З НА-МІ, А ГВАЛ-ТУ МЫ ДА-МО АД-
ТЫ, ЦЯР-ПЕ-ЛІ МЫ ДА-ВО-ЛІ НА БОЙ У-СЕ ДА АД-НА-
ПРЫПЕЎ
ПОР; ДА-МО АД-ПОР. НЯ-ХАЙ ЖЫ-ВЕ МА-ГУТ-НЫ, СЬМЕ-ЛЬ-НЫ НАШ
ГО, ДА АД-НА-ГО І-МЯ І СІ-ЛУ БЕ-ЛА-РУ-СА НЯ-
БЕ-ЛА-РУС-КІ, РОД-НЫ ДУХ, РОД-НЫ ДУХ, ШТАН-ДАР НАШ БЕЛ-ЧЫР-
ХАЙ ПА-ЧУЕ Й БА-ЧЫЦЬ ТОЙ, БА-ЧЫЦЬ ТОЙ, ХТО СЬМЕ-Е НАМ НЯСЬ-
ВО-НА-БЕ-ЛЫ, ПА-КРЫЙ СА-БОЙ НА-РОД-НЫ РУХ! БРА-
ЦІ ПРЫ-МУ-СЫ І ПЕР-ШЫ ВЫ-КЛІ-ЧА НА БОЙ!
ТЫ ДА ШЧАСЬ-ЦЯ МЫ ПАД-ХО-ДЗІМ, ХАЙ ГРОМ ГРЫ-МІЦЬ Я-
ШЧЭ МАЦ-НЕЙ, У КРЫ-ВА-ВЫХ МУ-КАХ МЫ НА-РО-ДЗІМ ЖЫЦЬ-
ЦЁ БАЦЬ-КОЎ-ШЧЫ-НЫ СВА-ЕЙ, ЖЫЦЬ-ЦЁ БАЦЬ-КОЎ-ШЧЫ-НЫ СВА-ЕЙ!



Па даручэньні ініцыятыўнае групы КБМС
Выпуск падрыхтавалі: В. Александровіч, В. Якімовіч, А. Ткачова